Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 9 Субота 26 Траўня 1928 г. м. Вільня. Год I

# ГРАМАДЗЯНІН

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй. || Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5. || АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ

## Ад Рэдакцыі.

Выпушчаем скарочаны нумар дзеля таго, што разам з ім выходзіць чарговы нумар і „Беларускага Раднага“.

## Вялікая зборка сяброў Т-ва „Прасьвета“ на Віленшчыне.

24 г. траўня ў Маладэчні ў прысутнасьці сябры Прэзыдыума Цэнтр. Рады Т-ва «Прасьвета» п. Т. Вернікоўскага адбылася зборка сяброў Т-ва «Прасьвета» з паветаў Маладэчанскага і Вялейскага. Усяго зьехалася 41 дэлегат ад 39 гурткоў. Між імі былі 24 Старшыні гурткоў, 5 сэкратароў, 1 скарбнік і 10 сяброў. Было некалькі і гмінных Радных. Кіраваў зборкай п. Т. Вернікоўскі. Прысутным быў прадстаўнік ад часопісаў «Грамадзяніна» і «Беларускага Раднага» п. Г. Канапацкі.

Між іншымі ўхваламі трэба адцяміць прынятыя аднагалосна і ўсімі прысутнымі падпісаныя 2 ніжэй зьмешчаныя ПАСТАНОВЫ:

### Пратакол

**Агульнай Вялікай Зборкі Дэлегатаў Гуртоў Т-ва „Прасьветы“ Віленскага Ваяводзтва.**

У дню 24 траўня 1928 г. у м. Маладэчна на *Агульнай Вялікай Зборцы дэлегатаў Т-ва „Прасьветы“ Віленскага Ваяводзтва*, скліканай па ініцыятыве сябры Прэзыдыўму Цэнтральнай Рады Т-ва „Прасьветы“ п. Т. Вернікоўскага, згодна з просьбай з мейсц аб арганізаваньні *Акружнай Рады Віленскага Ваяводзтва,* адбыўшайся пад старшынствам п. Т. Вернікоўскага, віцэ-старшыні п. Т. Сьвірыды і сэкрэтара п. У. Семашкевіча, пры ўдзеле 41 прысутных аднагаласна пастаноўлена:

Прыймаючы пад увагу, —

1. што як з надходзячым новым вучэбным годам, гэтак і ў цяперашні час патрэбна выяўленьне большай творчае ініцыятыўнае працы ў галіне культурна-асьветнай і арганізацыйнай;

2. што Цэнтральная Рада ў апошні час стала мала праяўляць дзейнасьці;

3. а роўным чынам прыймаючы пад увагу, што паўнамоцтвы Прэзыдыуму Цэнтральнае Рады кончыліся, між тым Прэзыдыум Цэнтральнае Рады не паруціўся аб скліканьні Вялікае Зборкі для перавыбараў новага Прэзыдыума, —

а) на падставе § 15 Статуту Беларускага Т-ва „Прасьветы" арганізаваць *Акружную Раду Т-ва „Прасьветы" Віленскага Ваявоздтва* і выбраць у склад Прэзыдыуму наступных асобаў: Старшынёю — Т. Вернікоўскага, сябрамі Прэзыдыуму — Т. Сьвірыду, З. Курыля і У. Семашкевіча. Запаснымі сябрамі — М. Усьціновіча, Р. Зеновіча, М. Тулецкага, М. Саковіча, Я. Забельскага і А. Раманкевіча;

б) даручыць нававыбранай Акружной Радзе ўчыніць крокі к высьвятленьню пунктаў адчыненьня беларускіх школаў згодна са складзенымі дэклярацыямі, а гэтак сама і падгатоўкі кандыдатаў беларускіх вучыцеляў шляхам адчыненьня вучыцельскіх курсаў ці паразуменьня з Інстытутам Гаспадаркі і Культуры адносна адчыненьня Вучыцельскай Сэмінарыі.

(Сьледуюць 41 подпіс прадстаўнікаў ад 39 гурткоў Т-ва „Прасьветы" Маладэчанскага і Віленскага паветаў).

# Пратэст

## вучасьнікаў Зборкі Дэлегатаў гуртоў „Прасьветы" на Віленшчыне, адбыўшайся ў Маладэчні дня 24 траўня 1928 года.

Азнаёміўшыся праз газэты і па высьвятленьні стварыўшайся сытуацыі ў зьвязку з газэтнымі выступленьнямі самазванна трымаючых страчаныя свае паўнамоцтвы сяброў Цэнтральнай Рады „Прасьветы" Марыі Станкевічанкі і Антона Якімовіча, — прызналі неабходным сьцьвердзіць:

1) што ўсё, што напісана ў газ. „Грамадзянін" у № 8, у артыкуле „Дарэмныя спробы"—усё гэта адпавядае праўдзе;

2) што п. А. Якімовіч сапраўды аніводнага разу ў справах „Прасьветы" ня быў на Віленшчыне, апрача толькі зьезду ў Маладэчні ў часе ўкладаньня сьпіскаў да Сойму і Сэнату;

3) што за апошнія месяцы кіраваньня „Прасьветай" п. п. Паўлюкевічам і Якімовічам праца гурткоў „Прасьветы" на Віленшчыне імі зусім ігнаравалася і не падтрымлівалася;

4) што ўсе гурткі на Віленшчыне былі заложаны выключна стараньнямі п. Т. Вернікоўскага і толькі ім падтрымліваліся;

5) што толькі ад першага сакавіка г. г., калі культурна-асьветная праца на Віленшчне цалком перайшла да п. Вернікоўскага, гурткі „Прасьветы" ізноў адчулі патрэбную апеку і кіраўніцтва;

6) што ў пагоні за мандатамі, удзелам у палітычнай працы, п. п. Мар'я Станкевічанка і А. Якімовіч сваей дзейнасьцяй давялі да поўнага правалу ўсю нашую выбарную акцыю;

7) што іхняя праца наагул і ў „Прасьвеце" у прыватнасьці ня прынясла нічога карыснага,—

дзеля ўсяго гэтага лічым адзіным найкарысьнейшым выхадам са стварыўшайся сучаснай сытуацыі — *выразіць недаверра і пратэст працi ганебнай дзейнасьці сяброў Цэнтральнае Рады Мар'і Станкевічанцы і Антону Якімовічу, якіх і прасіць, каб да новых перавыбараў склалі-б свае паўнамоцтвы і ня ўмешаваліся больш у справы Т-ва „Прасьветы" на Віленшчыне.*

А каб ведала грамадзянства і сябры іншых гурткоў „Пасьветы", гэты пратэст просім надрукаваць ў беларускіх газэтах.

(Сьледуюць 41 подпісь прадстаўнікаў гурткоў „Прасьветы" Маладэчанскага і Віленскага паветаў).

# ПАСТАНОВА

## Ураду Т-ва „Беларуская Хатка у Вільні".

Прыймаючы пад увагу:

1) што п. Антон Якімовіч — Старшыня „Прасьветы", пад час выбарнае акцыі для асабістай амбіцыі, пакрыўджанай праз п. Паўлюкевіча, прывёў выбарчую акцыю да поўнага банкроцтва і ў прысутнасьці супрацоўнікаў Цэнтру п. п. Іўжэнка, Дыбоўскага, Канапацкага і Шыбкі цынічна пахваляўся, што зрабіў гэта, каб заставіць п. Паўлюкевіча лічыцца з ім;

2) што добра ведаючы, што з правалам выбараў павінен быў наступіць развал усіх нашых арганізацыяў, ён аднак-жа свае амбітныя разрахункі з Паўлюкевічам паставіў вышэй інтарэсаў нашых арганізацыяў;

3) што пасьля сваей цынічнай пахвальбы ён сам не зразумеў, што не выпадае яму ўжо заставацца ў арганізацыях, існаваньне якіх ён сам-жа падрываў;

4) што ў сучасны мамэнт ён ізноў, каб „заставіць ужо п. Т. Вернікоўскага лічыцца з ім", павёў падрыўную працу пад развал нашых арганізацыяў, —

пастанавілі: выключыць п. А. Якімовіча з сяброў Т-ва „Беларуская Хатка ў Вільні" і пастанову апублікаваць у газэтах.

(Арыгінал з належнымі подпісамі).

# Судовы прыгавар над „Грамадой“.

22-га траўня Віленскі Акружны Суд у складзе старшыні п. Аўсянкі, судзьдзяў Едзевіча, Борэйко і Бржозоўскага быў вынесены прыгавор па справе „Грамады“ наступнага зьместу:

„Ад імя Польскае Рэспублікі Акружны Суд пастанавіў: за удзел у змове пад назваю „Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады“, які быў створаны з мэтаю дакананьня замаху на ўстаноўляны шляхам закону дзяржаўны лад Польшчы, роўным чынам на цэласьць яе тэрыторыі шляхам увядзеньня савецкага ладу і адарваньня ад Польшчы пры помачы аружнага паўстаньня паўночна-усходніх ваяводзтваў і далучэньне іх да Радавае Расеі, прычым для здзейсьненьня гэтай змовы валадалі складамі аружжа — прыгаварыць на зьняволеньне ў цяжкай турме з пазбаўленьнем у правох:

Быўшых паслоў: Браніслава Тарашкевіча, Сямёна Рак-Міхайлоўскага, Петра Мятлу і Паўлу Валошына — па 12 гадоў, Фабіяна Окіньчыца і Максіма Бурсэвіча — па 8 гадоў, Кузьміча, Якімовіча, Шумкевіча, Паддубіка, Потапчыка, Шкодзіча, Гелдэна, Саваньса — па 6 г., Драгуна, Козіча, Якубчыка, Сіняка, Шацько, Ефімовіча, Лабунько і Антановіча — па 5 г., Клаўдзію Гоцько, Баліцкага, Колпака, Кота, Шчыглінскага, Зданюка, Бяломызу, Нікіфароўскага, Даніловіча і Салыго — па 4 г., Гаркевіча, Янкоўскага, Патоцкага і Марчыка—па 3 г. Затым Стэфан Кіліна-Куліпоўскі за вышэй указаныя праступкі і шпіянаж прыгавораны па 6 г.

Апраўданы 19, у гэтым ліку б. дырэктар Бел. Гімназіі, а затым Беларускага Банку, Рад. Астроўскі, бугальтар гэтага-ж банку сьвяшчэнік Г. Коўш і Антон Луцкевіч, роўным чынам чатыры абвінавачаныя ў замардаваньні конфідэнта Івашкевіча.

Усе абвінавачаныя прынялі прыгавор зусім спакойна. Некалькі асобаў з публікі кінулі на асуджаных кветкі, пасьля чаго апошнія запяялі: „Ад веку мы спалі“... Паліцыя ўдаліла публіку з салі, а некаторых з маніфэстантаў арыштавала, якія пасьля сьпісаньня пратаколу былі зволенены.

Праз некалькі гадзінаў пасьля прыгавору ўсе асуджаныя былі перавезены партыямі пры моцнай варце на вакзал, дзе для іх былі прыгатаваны два спэцыяльных вагоны. У адным з іх былі зьмешчаны 21 асуджаны з Валошынам, Окіньчыцам і Кл. Гоцько і скіраваны праз Ліду на Варшаву, а ў другім рэшта 16 праз Горадню на Варшаву. Паводле польскіх газэтаў, усе яны будуць пасаджаны ў турмы ў рожных мейсцах.

# Тутэйшая хроніка.

**— Спэктакль у Маладэчні.** Пасьля вялікае зборкі гуртkоў таварыства „Прасьветы“ у Маладэчні ў калеёвым „Агніску“ вандроўнай беларускай трупай Віленскае Акружнае Рады Т-ва „Прасьвета“ быў пастаўляны спэктакль. Гралі „Цені“ Ф. Аляхновіча і маленькую аднаактоўку „У доктара“. Пасьля спэктакля адбыліся скокі.

Як заўсёды лепей іншых адыграла пані М. Семашкевіч. П. І. Семашкевіч надта добра адыграў сваю ролю ў аднаактоўцы. Рэжысаваў п. Т. Сьвірыд. Досіць абшырная саля „Агніска“ была поўная публікі, пераважна беларускай. Але былі і урадоўцы з староства і чыгункі. Між іншымі на спэктаклі быў прысутны і войт Маладэчанскай гміны п. Гулевіч —беларус.

Агульнае ўражаньне ад зборкі і вечарыны як найлепшае. Адчуваецца аздараўленьне ад папярэдняе палітыкі нашых б. павадыроў. Газэта „Грамадзянін“ выклікае задаваленьне і пажаданьне, каб ня зьмяняла сучаснага кірунку і не пайшла-бы шляхам нябошчыцы „Беларускага Слова.“

Было шмат запытаньняў адносна законнага працэсу „Грамады“ і зацікаўлянасьці, чым скончыцца справа забойства праз паліцыянта 2-х маладэчанскіх сялян.

Пасьля вечарыны ўсе дэлегаты цягнікамі параз'ехаліся дамоў.

**— Беларускі спэктакль-вечарына.** 28-га траўня ў вёсцы Арлянятах Ашмянскага павету адбудзецца спэктакль-вачарына, ладжаная гуртком Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Праграма вечарыны: „Паўлінка“ — камэдыя ў 2-х актах Я. Купалы, „Заручыны Паўлінкі“ — камэдыя ў 1-м акце П. Аляхновіча і скокі.

**— Скамарохі.** Калі Т. Вернікоўскі спыніў з уходам п. Паўлюкевіча выдачу субсыдыяў і М. Станкевічанцы і А. Якімовічу, дык тыя, сабраўшыся ў двох (а прэзыдыум складаецца з пяцёх сяброў), „завесілі“ яго ў дзейнасьці. Гэткую пастанову двое скамарохаў выносяць акурат у той час, калі агульны сход прадстаўнікаў з гурткоў „Прасьветы“ ад Віленшчыны выносіць у Маладэчні проці іх пратэст. Ганебным інтрыгантам выражае недаверра.

Ці-ж гэта не скамарохі?

А апрача таго Мар'я Станкевічанка зьвярнулася яшчэ з абжаленьнем на Т. Вернікоўскага да Інспэктара Працы ў Вільні.

П. Т. Вернікоўскі заявіў Інспэктару: „не я — кажа — яе наймаў, не я плаціў... а нанялася яна сама да Пайлюкевіча, і калі той сваёй вернай служцы не заплаціў, дык няхай да яго і зварачваецца“...

І зусім слушна. Калі за сваю верную службу лічыць сябе пакрыўджанай, дык заместа выліваньня непатрэбных брудаў на Т. Вернікоў-

скага і самазванча-самачыннага „завешваньня“ яго ў дзейнасьці — шукала-б сабе задавальненьня адразу шляхам закону, ня з п. Вярнікоўскага, проці якога заўсёды інтрагавала, а з п. Паўлюкевіча, які яе наняў, якому служыла з 1926 года і які з ёю насіўся, як з пісанаю торбаю...

**— Не пасьпеў нарадзіцца, як памірае.** Грам. Эдгар Паўкшта надрукаваў у „Biełaruskaj Krynicy“ і „Сялянскай Ніве“ ліст ў якім кажа, што ён ня быў на арганізацыйным паседжаньні г. зв. „Беларускага Гаспадарскага Зьвязу“ і з прычынаў асабістага характару ня можа прыняць вучасьця ў працы гэтае арганізацыі.

Як відаць „спадар“ набірае ў сваю арганізацыю сяброў папросту з адраснай кнігі м. Вільні. А шыла і вылязла. Ходзяць чуткі, быццам і віленскія польскія дэмакраты азірнуліся, ў якім Т-ве яны апынуліся і маюць спыніць зносіны з „спадаром“ якога нават апошні з магіканаў пас. Валынец пакінуў.

**— З Сойму.** У часе дыскусіі пад пытаньнем аб выдачы суду камуністычнага пасла Сахацкага, якая адбылася 15 траўня, прамаўляў між іншымі проціў выдачы пасол Беларускага Пасольскага Клюбу „Змаганьне“ Гаўрылік.

**— Дзейнасьць Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.** Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры зьвярнуўся да куратара Віленскай Школьнай Акругі з просьбай аб выдачы яму канцесіі на Беларускую Вучыцельскую Сэмінарыю. Прсьбу разам з апрацаваным новым статутам і прэлімінарным бюджэтам сэмінарыі ўручылі п. куратару старшыня Цэнтральнага Ураду Інстытуту гр. А. Більдзюкевіч і пасол Х. Ярэміч. Пан куратар дакляраваў усё ад яго залежнае выращыць прыхільна.

**— З Беларускага Сялянскага Саюзу.** У нядзелу 20 траўня адбылася паседжаньне Цэнтральнага Камітэту Белар. Сялянскага Саюзу, на якім прыняты рад пестановаў палітычнага зьместу. Паседжаньне адбылася пад старшынством сэн. Б. Рагулі, які гэткім чынам, у першы раз пасьля вастрогу, ўступіў у палітычнае жыцьцё.

**— Незалежная беларуская мітраполія ў Вільні.** Праваслаўныя беларускія колы ў Вільні распачалі энэргічныя крокі ў кірунку стварэньня ў Вільні незалежнай праваслаўнай беларускай мітраполіі.

**— Беларуская мова ў праваслаўнай духоўнай сэмінарыі.** Пачынаючы з наступнага вучэбнага году ў праваслаўнай духоўнай сэмінарыі ў Вільні ўводзяцца выклады беларускае мовы. На гэтыя выклады вызначана 4 гадзіны ў тыдзень.

**— З Духоўнае Сэмінарыі.** 23 траўня б. г. распачынаюцца выпускныя экзаміны ў Віленскай праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі. З 20 вучняў да экзаміну дапушчана толькі 13.

З пачатку наступнага вучэбнага году лік лекцыяў на беларускай мове ў сэмінарыі павялічываецца на чатыры гадзіны ў тыдзень.

**— Склад крадзенай броні.** Як паведамляюць польскія і расейскія газэты, на днях ў кладоўцы памешканьня Зінаіды Шат на вул. Ад. Міцкевіча № 22 (д. Пімонава) быў выкрыты склад рэвальвэраў рожных сыстэмаў, пораху і капсуляў. Паліцыяй высьняна, што гэтае аружжа было ўкрадзена з складу броні Зенкевіча на в. св Анны, 9.

Цікава тое, што ў гэтым памешканьні п. З. Шат раней жыў быўшы пас. Шапель, які цяпер асуджаны на 6 гадоў турмы, а цяпер Старшыня Т-ва „Прасьветы“ Якімовіч з М. Станкевічанкаю перанясьлі ў гэтае памешканьне канцэлярыю „Прасьветы“.

Знайшлі адпаведнае памешканьне для Т-ва „Прасьветы“, нечага сказаць!..

**— Забастоўка ў Белавежы.** У Белавежскай Пушчы забаставалі працаўнікі, занятыя пры белавежскіх лясох. Забаставаўшыя патрабуюць 50 проц. прыбаўкі, англійскіх суботаў, лекарскай запамогі, адпускоў і звальненьня ад працы толькі пасьля папярэджаньня. Агулам забаставала 500 сталых работнікаў тартакоў і каля 2,000 сэзанавых. Канцэсіі гэтыя належаць англійскім і гданскім лясным фірмам.

**— Новая беларуская часапісь.** У хуткім часе мае выйсьці новая беларуская часапісь пад наз. „Водгукі“. Часапісь будзе выдавацца беларускімі радыкальнымі коламі.

**— Канфіскацыя.** Па загаду „Srarostwa Grodzkiego“ сканфіскаваны № 11 часапісі „Голас працы“ за артыкулы „Голас чэскага паступовага грамадзянства“ і „Як моладзь праводзіць час“.

**— Новы нумар „Маланкі“.** Выйшаў з друку чарговы 6-ы нумар беларускай гумарыстычнай часапісі „Маланка“. Знаходзім у ім апрача карыкатураў і анэкдотаў — пекны верш Янкі Купалы — Вясна, маленькі фэльетон Янкі Барысаўскага, гумарыстычнае апавяданьне Міх. Зошчэнкі—Муж і, як заўсёды дасьціпныя „Сьвежыя Навіны“ і паштовую скрынку.

## Паштовая скрынка.

К.Д. — 2, М. — Ш. Я. — С. Т, — У. М. — — А. П· — Б. А· — С. М. — і З· — Пратэсты вашыя проці выступленьняў М. Станкевічанкі і А. Якімовіча і пажаданьні, каб „гнаць іх з нашых арганізацыяў“ — атрымалі. Адказ даў зьезд делегатаў гурткоў „Прасьветы“ з Віленшчыны· Глядзіце — пратэст.

Грам. С. В — ты. Пан Т. В. нажаль ня можа скарыстацца з Вашых радаў, якія ў мінуўшым памаглі яго папярэднікам, як кадзіла нябошчыку. Дык дарэмны Ваш труд, пане Станіславе. Ня варта было і паперу псаваць.

Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1